

№ 32 (49)

Жнівень 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



***На міжнароднай канферэнцыі «Мінск і Кракаў. Спадчына XX стагоддзя – гісторыя і архітэктура», якая адбылася ў Мінску 21 чэрвеня 2004 г. пад патранажам некалькіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Беларусі і Польшчы, у тым ліку і Беларускага фонда культуры, выступіў з дакладам вядомы даследчык гісторыі і культуры Мінска, доктар навук Захар Шыбека. Нам падаецца, што яго даклад, падыходы да праблемы ўспрыняцця глыбіннай культуры нашай сталіцы маглі б аказаць вялікую дапамогу асобным спецыялістам ці групам, якія возьмуць удзел у конкурсе на лепшы праект развіцця гістарычнага цэнтра Мінска.***

**(Глядзіце 6-ю стар.)**

### Наша віншаванне

*Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», «Краязнаўчая газета» цёпла і сардэчна віншуюць з 55-годдзем загадчыка аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатоля Грэкава – руплівуца па ўшанаванні памяці песняра Якуба Коласа і высокадухоўных спраў яго землякоў, аднаго з актыўных удзельнікаў краязнаўчага руху ў нашай краіне. Жадаем здароўя, добрага настрою і новага плёну ва ўсіх добрых пачынаннях!*




## У Дзяражычах аднавілі мемарыял

Адной з адметных падзей у час святкавання на Лоеўшчыне 60-годдзя вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў стала ўрачыстае адкрыццё аднаўленага мемарыяльнага комплексу ў вёсцы Дзяражычы. Гэтае святое для жыхароў раёна месца з'яўляецца сімвалам мужнасці і непахіснасці савецкіх воінаў і партызан, якія аддалі свае жыцці за вызваленне роднай зямлі ад ненавіснага ворага. У брацкай магіле пахаваны 1293 савецкія салдаты і афіцэры, што загінулі пры фарсіраванні Дняпра і прарыве ў гэтым месцы ўмацаванай лініі абароны фашыстаў. Дзесяці з іх прысвоена высокае званне – Герой Савецкага Саюза. Па словах намесніка старшыні Лоеўскага райвыканкама Рыгора Кліменкі, на капітальную рэканструкцыю мемарыяла выдаткавана з абласнога бюджэту і раённых крыніц каля 50 мільёнаў рублёў. Актыўную дапамогу лоеўчанам у вырабе мемарыяльных пліт і аднаўленні комплексу аказаў дырэктар прыватнага прадпрыемства з Лельчыц Валянцін Буткоўскі.

***Мікола ЖДАНОВІЧ, «Рэспубліка»***

## Памяць аб страчанай святыні

***20 чэрвеня, калі выпускнікі аршанскай СШ № 20 развітваліся з роднай школай, ля яе будынка быў урачыста адкрыты незвычайны памятны знак. Прысвечаны ён Свята-Успенскаму Куцеінскаму жаночаму манастыру, што некалі існаваў на гэтай зямлі.***

Заснаваны ў 1631 г. мсціслаўскім падкаморыем Багданам Статкевічам-Завірскім і ягонай маці Ганнай Агінскай, манастыр быў выдатным помнікам архітэктуры беларускага барока. Каштоўным было і ўнутранае начынне храмаў манастыра. У ім захоўвалася цудатворная ікона Казанскай Божай Маці. Ці не пра яе згадваў Уладзімір Караткевіч у рамане «Каласы пад сярпом тваім»: «Гэтая ікона з Куцейны (...) лічылася раней узорам для тых, хто пісаў іконы. Прыгажосць невыказная». Знакаміты даследчык Іван Грыгаровіч адзначаў вялікую ролю Куцеінскага манастыра ў беларускай царкоўнай гісторыі: «Ён быў, так бы мовіць, калыскай некаторым беларускім дзявочым абіцелям, пры заснаванні якіх для захавання падабенства ў правілах інацкага агульнажыцця пераводзіліся з яго не толькі манахіні, але і начальніцы».

У 1918 г. манастыр быў гвалтоўна зачынены бальшавікамі, шмат якія манахіні былі пасля рэпрэсаваны. У гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі манастыра нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі лагер смерці (на жаль, гэта пакуль ніяк не адзначана). А ў пасляваенны час ягоныя будынкі былі канчаткова зруйнаваны. Падчас будаўніцтва шматпавярховак па вуліцы Флёрава ў другой палове 1980-х гг. былі адкапаны падземныя памяшканні сабornай царквы манастыра.

Куцеінскі Успенскі манастыр – не адзіны помнік культавага дойлідства, знішчаны ў Оршы ў XIX і асабліва ў XX стагоддзях. Таму грамадскае аб'яднанне «Фонд аховы помнікаў гісторыі і культуры» выступіла з ініцыятывай правядзення акцыі «Страчаныя святыні». У яе рамках мяркуецца адзначыць памятнымі знакамі месцы, дзе некалі знаходзіліся цэрквы, касцёлы, сінагогі. І першы такі знак устаноўлены ля СШ № 20. Пліту з чорнага граніту з прыгожай выявай манастыра (са здымка пачатку XX ст.) і адпаведным тэкстам (літарамі куцеінскіх друкаваных выданняў) дабрачынна зрабіла прыватнае прадпрыемства Мікалая Дземчанкі. Душу і талент уклалі ў твор мастакі Сяргей Шарай, Алесь Кажамяка і Максім Ісаенка. Побач з плітой усталяваны валун, які быў прыцягнуты з русла рэчкі Куцеінкі вучнямі школы – сёлетнімі выпускнікамі – пад кіраўніцтвам педагогаў-краязнаўцаў Аляксандра Шышкевіча і Таццяны Варонінай. Магчыма, камень быў у падмурку аднаго з храмаў манастыра, бо на ім захаваліся сляды вапны.

У заключэнне хочацца шчыра падзякаваць усім, хто мае дачыненне да стварэння памятнага знака, які стане годным напамінам сучаснікам і нашчадкам пра нашу страчаную спадчыну.

***Віктар ЛЮТЫНСКІ, загадчык Музея гісторыі і культуры, г. Орша***

*Прэзентацыя*

# Пра Н.Л. Сняжкову і яе кнігу

Найпаважанейшая сярод усіх работнікаў культуры, былы намеснік старшыні Савета Міністраў БССР, журналіст па адукацыі Ніна Лявонаўна Сняжкова сабрала многіх з тых, з кім яна працавала на глебе адукацыі, культуры, навукі, у творчых арганізацыях для таго, каб прэзентаваць сваю працу – кнігу аб першай жанчыне-касманаўту – Валянціне Церашковай.

Сустрэча гэта адбылася пад дахам грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы 15 ліпеня гэтага года і вызначылася надзвычай цёплай атмасферай, бо таму былі свае падставы. Па-першае, Н.Л. Сняжкова, упершыню абгрунтаваўшы свае словы згодаю В. Церашковай, гучна сказала аб тым, што першая ў свеце жанчына-касманаўт, нягледзячы на тое, што савецкая прэса адразу абазвала яе рускай па нацыянальнасці «чайкай-яраслаўнай», на самой справе была і застаецца беларускай па крыві. Маці яе, Алена Фёдараўна, родам з Дубровенскага раёна, а бацька, Уладзімір Аксёнавіч Церашкоў, – з-пад Бялыніч. У выніку Н.Л. Сняжкова павялічыла шэраг славутых імёнаў Бацькаўшчыны яшчэ на адну знакаміцейшую ва ўсім свеце асобу.

Па-другое, кніга Н.Л. Сняжковай – не толькі аб Валянціне Церашковай. Яна аб многіх вядомых і зараз можа незаслужана забытых жанчынах нашай Беларусі. Праз свае ўспаміны аб Церашковай, з якою Ніна Лявонаўна сябравала, яна зрабіла ўсё, каб Беларусь успомніла і ганарылася сваімі дачкамі-гераямі, такімі, як артыстка Марыя Захарэвіч, фехтавальшчыца Алена Бялова, мастачка Нінэль Шчаснаяі іншымі. Вялікі раздзел кнігі прысвечаны гераічнай жанчыне – жанчыне-пакутніцы, якая ў час Вялікай Айчыннай вайны згубіла пецярых сваіх сыноў-салдат. Імя яе – Настасся Купрыянава. Менавіта ёй і яе сынам узведзены велічны помнік у г. Жодзіна. Н.Л. Сняжкова на старонках кнігі выказала, на мой погляд, слушную думку аб стварэнні ў Беларусі «музея маці».

Было б несправядлівым, каб я не сказаў больш падрабязна і пра самую Ніну Лявонаўну. Без перабольшання – яна з тых жанчын Беларусі, праца якіх заслужыла больш высокай адзнакі дзяржавы, чым адбылося насамрэч. Яе непасрэднымі намаганнямі стваралася вялікая колькасць музеяў, у тым ліку Веткаўскі музей – скарбніца мастацкіх (і не толькі) каштоўнасцяў. З яе ініцыятывы і пры яе ўдзеле практычна ў кожным раённым цэнтры узводзілася мноства дамоў культуры, бальніц, музеяў, аздараўленчых комплексаў, музычных школ. Мала было адной ініцыятывы, трэба было «выбіць» неабходныя «ліміты», «капітальныя ўкладанні» ў Маскве.

Таму ўсе мы, хто працаваў з Н.Л. Сняжковай, і сабраліся ў Доме прэсы для таго, каб павіншаваць яе з выхадам кнігі «Жанчына стагоддзя» і ў той жа час яшчэ раз сказаць ёй «дзякуй» за ўсё, што яна зрабіла для нашай краіны.

Трэба дадаць, што кніга выйшла ў выдавецтве ТДА «Друк-С» тыражом 3000 асобнікаў, добра ілюстравана каштоўнымі і ўжо гістарычнымі здымкамі, афармлена мастаком А. Пушкаром.

Яшчэ раз шчыры дзякуй Вам, шаноўная Ніна Лявонаўна.

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***галоўны рэдактар***
***«Краязнаўчай газеты»***



*Рэшткі вадзянога млына (в. Прылукі Дзяржынскага раёна)*

*Фота Уладзіміра ВЫЛІНСКАГА*

# «Мінскі» і «Духмяны»

У найбліжэйшы час Беларускі навукова-даследчы інстытут харчовых прадуктаў пачне выпуск напою з бульбы «Мінскі», аналага якому ў свеце пакуль няма.

Пра гэта паведаміла начальнік аддзела інстытута Таццяна Тананайка на пасяджэнні «круглага стала» на тэму «Беларускі рынак прахаладжальных напояў».

Гэты газіраваны напой выраблены з канцэнтрату натуральнага соку бульбы з дабаўленнем таксама натуральнай духмянай смакавай дабаўкі «кмен», лімоннай кіслаты і цукру. Паводле слоў Т.Тананайка, бульбяны напой мае «прыемны асвяжаючы смак і валодае лячэбнымі ўласцівасцямі, якія дапамагаюць у прафілактыцы многіх захворванняў».

Акрамя таго, спецыяліст інстытута паведаміла, што ў аддзеле прадуктаў з бульбы распрацоўваецца прынцыпова новыя безалкагольныя газіраваныя напоі на аснове бульбянога канцэнтрату з дабаўленнем востра-духмяных і лекавых раслін пад агульнай назвай «Духмяны». Перад арганізацыяй маштабнай вытворчасці кожны напой з кампазіцыі настояў лекавых траў атрымае ўласную назву.

У цэлым жа інстытут вядзе распрацоўкі па кірунках вытворчасці розных напояў. Так, плануецца выпускаць газіраваныя напоі з выкарыстаннем агародніных сокаў – бурачнага, квашанай капусты і пятрушкі – у камбінацыі з садавіннымі сокамі.

***Лавінія АРЭШКА***

# Ветэран піша ўспаміны

З 2002 года Леанід Шэйнкер жыве з жонкай у канадскім Таронта. Нястомна прадаўжае работу па ўвекавечанні памяці ўдзельнікаў той жудаснай вайны: піша кнігі, публікуе артыкулы ў газетах, выступае па радыё і тэлебачанні, клапоціцца перад канадскімі ўладамі, каб усе ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць у Канадзе, мелі такія ж сацыяльныя льготы, што і ўдзельнікі вайны – канадцы.

Пра Сталінградскую бітву, аперацыю «Баграціён», подзвігі Льва Маневіча, Ісая Казінца, Машы Брускінай расказвае ў сваіх успамінах Л. Шэйнкер. 60-годдзю Перамогі прысвяціў ён серыю публікацый пра герояў вайны, кавалераў ордэна Славы ў рускамоўных канадскіх газетах. У планах – новая кніга.

Ваяваў Леанід Аляксандравіч у складзе 59-га гвардзейскага Баранавіцкага штурмавога авіяцыйнага палка 16-й паветранай арміі, удзельнічаў у баях за вызваленне Беларусі. 23 чэрвеня 1944 года ў баі пад вёскай Бачэйкава Бешанковіцкага раёна загінуў яго брат Рыгор Ваксін.

Жывуць сёння ў Канадзе ветэраны вайны, удзельнікі баёў за вызваленне Беларусі, поўныя кавалеры ордэна Славы – М. Гізіс, В. Пелер, кавалеры ордэнаў Чырвонай Зоркі і Айчыннай вайны Ю. Казлоўскі, М. Пагіс, А. Вехніс.

***Пасольства***
***Рэспублікі Беларусь***
***у Канадзе, «Голас Радзімы»***

# Свята танца ў Тураве



Зямля продкаў. Зямля Кірылы Тураўскага. Зямля працавітых, таленавітых палешукоў. Весела, з гумарам і народным гуляннем адзначылі саракагоддзе народнага ансамбля танца «Прыпяць». Гэта падзея адбылася як генеральная рэпетыцыя перад вялікім святам Дзён беларускага пісьменства, якія пройдуць у верасні ў Тураве. І таму горад памаладзеў, пахарашэў. Прыбраныя вуліцы, шмат кветак упрыгожваюць сівую старажытнасць.

Вось на гэтых вуліцах і плошчы, усклаўшы жывыя кветкі да помніка Кірылу Тураўскаму, гулялі, скакалі ўсе ад малога да старога.

Фальклорныя гурты з вёсак Жыткаўшчыны прывезлі свой лепшы настрой і віншаванні. Завіталі сюды і атрымалі падзяку ад людзей самадзейныя артысты вёскі Запясочча з вясёлымі таленавітымі кіраўнікамі Валянцінай Абібок і Сяргеем Страх, вёскі Чэрнічы з цудоўнымі песнямі. Ансамбль «Сваты» з горада Жыткавічы з Васілём Каральцом і Ганнай Лой доўга не выходзілі з падмосткаў. Дзіцячы тэатр фальклору «Дрыгавічы» спяваў прыпеўкі і вясёлыя гульні ладзілі з вялікімі лялькамі. Тут пасталіся Кацярына Домніч і Сяргей Мароз.

На «біс» выйшаў танцавальны нумар, які пастаўлены тымі артыстамі, што ў розныя гады звязалі свой лёс з «Прыпяццю». Назвалі яго «Сустрэча на алеі». А пасадзілі алею ў парку Турава ў гонар ансамбля «Прыпяць» жыхары горада.

***Мікола КОТАЎ, фальклярыст***



***На здымках: былыя ўдзельнікі «Прыпяці»; фальклорны гурт з в. Чэрнічы Жыткавіцкага раёна***

# Праваслаўны лагер

Летні адпачынак дзяцей усіх узростаў тут арганізаваны не зусім звычайна.

Выдатныя бытавыя ўмовы, смачнае харчаванне, адпачынак на ўлонні прыроды ля возера Бернскае спалучаюцца з цікавымі конкурсамі, спартыўнымі спаборніцтвамі, мерапрыемствамі ў гонар 60-годдзя вызвалення Віцебшчыны і Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і... малітвай.

На тэрыторыі праваслаўнага лагера «Дружба» ў вялізнай ваеннай палатцы нават абсталяваны паходны храм у гонар іконы Божай Маці «Выхаванне». Гучыць у лагеры і замежная мова: разам з нашымі дзецьмі тут адпачываюць члены міжнароднай хрысціянскай суполкі.

***Віталій ФЁДАРАЎ,***
***«Рэспубліка»***





Міжнацыянальныя справы

## Аб гісторыі і культуры татар

У Навагрудку на 180 старонках на беларускай і рускай мовах пабачыў свет зборнік матэрыялаў VIII Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Мячэці і мізары татар Беларусі, Літвы і Польшчы. Да стагоддзя другой Мінскай мячэці».

Выдаўцамі выступілі Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне і Беларускае грамадскае аб'яднанне татар «Зікр уль-Кітаб». Зборнік адрасуецца вучоным, аспірантам, выкладчыкам, студэнтам і іншым чытачам, якіх цікавіць 600-гадовая гісторыя асадніцтва татар на землях Беларусі, Літвы і Польшчы.

Пачынаецца выданне ад знакамітай, аднаўленай у Беларусі мячэці – Лоўчыцкай, дзе побач на мізары спачывае адзіны святы мусульманін нашай краіны – пастушок Эўлія Контусь.

Матэрыялы па гісторыі і культуры татар прадставілі вядомыя вучоныя з Беларусі і памежных краін: І. Канапацкі, С. Думін, Р. Макавяцкяс, А. Філатава, М. Махмуд, Ш. Бехцінееў, І. Александровіч, Г. Мішкінене, А. Эміравa і іншыя.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**



## «Беларусь у цэнтры Еўропы»

Пад такой назвай у Берліне пабачыў свет зборнік беларускіх і нямецкіх аўтараў. Рэдактарамі артыкулаў выступілі Брыта Воленвебер, Анета Зус. Пераклады зрабілі Уладзімір Шалімаў і Анета Зус.

Адкрываецца зборнік артыкулам былога Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Германіі Пятра Садоўскага. Затым ідуць працы «Беларусь – сучаснасць і будучыня» Анатоля Грыцкевіча, «Вяртанне Марка Шагала ў Віцебск» Людмілы Хмяльніцкай. Таццяна Гаранская і Уладзімір Пракапцоў вядуць гаворку пра беларускае выяўленчае мастацтва, Тамара Габрусь – пра архітэктуру, Дзмітрый Падбярэзскі – пра музыку, Валянціна Коўтун – пра літаратуру.

Рэдактар кнігі Брыта Воленвебер змясціла артыкул «Наведанне Брэста – уражанні ад адной паездкі».

## ...Была эпоха інтрыг і авантур

Імёны апавядальнікаў-дакументалістаў Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа даволі шырока і добра вядомыя ў літаратурных, даследчыцкіх і чытацкіх колах нашай рэспублікі. Вось ужо ці не добрае дзесяцігоддзе рэгулярна радуюць яны новымі гістарычна-дакументальнымі творамі аб далёкай мінуўшчыне нашай старонкі. Радуюць паасобку: у Ірыны даволі вялікі поспех найперш мелі зборнікі навел «Кавалеры и дамы белорусского Ренессанса», «По рыцарским законам» і «Летописцы повествуют о любви», што пабачылі свет на працягу 2000–2002 гадоў; у Міколы – такія ж грунтоўныя даследаванні: яго кніга «Сыны зямлі беларускай» даўно стала рэдкасцю. Радуюць яны і сумеснымі творамі: выдадзены яшчэ ў 1995 годзе зборнік гістарычных нарысаў І. Масляніцынай і М. Багадзяжа «Слава і няслаўе» быў, па сутнасці, першым зборам аповедаў пра слынных беларускіх мінулых часоў.

І вось чарговае сумеснае выданне здольнага і працавітага дуэта Масляніцына–Багадзяж: кніга «Радзивиллы в эпоху интриг и авантюр», якая выйшла ў свет зусім нядаўна. Яна, дарэчы, стала другой з цыкла іх твораў пра слынных нясвіжскіх князёў Радзівілаў. Ірына і Мікалай задумалі і, як бачым, з поспехам ажыццяўляюць стварэнне серыі гістарычных мініяцюр, ахопліваючы эпоху Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Час бясконцых кровапралітных войнаў, бескаралявання і двухкаралявання з'яўляўся адначасова і эпохай авантур, інтрыг, подзвігаў, любові, паэзіі... Усё гэта і знайшло сваё адлюстраванне ў кнізе.

«Исторические личности глазами современников» – так назваў уступны артыкул да кнігі доктар гістарычных навук М. Гурын. Коратка аналізуючы творчасць аўтараў, ён найперш адзначае іх аб'ектыўнасць, уменне І. Масляніцынай і М. Багадзяжа ствараць каларытныя вобразы персанажаў, паказваць іх жыццё і дзейнасць у кантэксце гістарычных падзей. І гэта насамрэч так. Прычым, малюючы вобразы Радзівілаў, аўтары вялікую ўвагу ўдзяляюць таксама і палітычным інтрыгам, авантурам крывавых войнаў таго часу. І, на нашу думку, гэтыя малюнкі таксама закрануць душы і сэрцы чытачоў. Па-першае, пра тую эпоху мы па-ранейшаму так мала ведаем, а па-другое, падзеі гісторыі ў кнізе надзвычай удала пераплецены з прыватным жыццём самага вялікага магнацкага роду беларускай даўніны. Роду, пагалоска аб якім у часы Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай ішла – без перабольшання – па ўсім Еўрапейскім кантыненце.

Радзівілы любілі і шанавалі сваю Бацькаўшчыну, пастаянна, з пакалення ў пакаленне, клапаціліся аб яе росквіце, ахвяравалі вялікія сродкі на дабрачыннасць, спрыялі развіццю нацыянальнай культуры, эканомікі, асветы, нарэшце – змагаліся за Айчыну і яе незалежнае існаванне на палях бітваў... Па сутнасці, кожны больш чым з паўсотні князёў з роду Радзівілаў меў дачыненне (найперш – фінансавай падтрымкай) да будаўніцтва на беларускай зямлі замкаў і храмаў, асобныя з якіх і сёння ўпрыгожваюць нашу родную старонку.

Цікава, з веданнем матэрыялу напісана гэта кніга. Яе мова дакладная, насычаная вобразамі і параўнаннямі, нечаканымі высновамі... І яна знойдзе свайго чытача.

**Анатоль МЯСНІКОЎ**

**Двухбаковая беларуска-польская дарадчая камісія па сумеснай культурнай спадчыне была створана ў сярэдзіне 1990-х гадоў па ініцыятыве грамадскага дзеяча і мецэната Анджэя Цеханавецкага (Лондан), генетычна звязана з Беларуссю, і па рашэнні міністэрстваў культуры абедзвюх краін. З таго часу сябры камісіі (кіраўнікі на ўзроўні намеснікаў міністраў, эксперты па музейнай, бібліятэчнай, архіўнай справе, архітэктуры) збіраюцца на пасяджэнні па магчымасці два разы на год – пачаргова ў Польшчы і Беларусі.**

**Абмяркоўваюцца пытанні выяўлення, сумеснага выкарыстання і вяртання культурнай спадчыны, часта агульнай (як у выпадку з Радзівіламі). Гэта пакуль што адзіная сумесная камісія такога тыпу, якая можа паслужыць узорам для іншых.**

# Плённыя дэбаты ў горадзе Каперніка

Месцам правядзення чарговага 14-га пасяджэння камісіі не выпадкова быў выбраны старажытны Торунь – горад на беразе Віслы, які захаваў шматлікія гістарычныя і архітэктурныя помнікі пачынаючы з XIII стагоддзя, горад – радзіма вялікага Каперніка. Тут многа і беларускіх памятак. Прафесар Toрунькага універсітэта сусветнай славы бібліёлаг Яніна Гурыновіч захавала, перавезла з Вільні ў Торунь і перадала ў мясцовы архіў рукапісы і фатаграфіі свайго дзядзькі – беларускага, польскага і рускага паэта-рэвалюцыянера Адама Гурыновіча. А беларус з Браслаўшчыны Мар'ян Пецюкевіч, колішні дырэктар Віленскага беларускага музея, пераехаўшы сюды, стварыў, пераважна з матэрыялаў, сабраных у час экспедыцый па Беласточчыне, цікавую этнаграфічную экспазіцыю ў мясцовым музеі. Там жа захоўваецца яго багаты архіў.

У пачатку сустрэчы сябры беларускай часткі камісіі былі прыняты паслом Беларусі ў Рэспубліцы Польшча Паўлам Латушкам. Праз дзень у памяшканні Торуньскай ратушы было праведзена пасяджэнне камісіі, у якім удзельнічалі 7 экспертаў з Беларусі на чале з намеснікам начальніка ўпраўлення Міністэрства культуры Васілём Чэрнікам, з удзелам саветніка Пасольства Рэспублікі Беларусь Мікалая Пятровіча і 12 прадстаўнікоў з польскага боку (эксперты і супрацоўнікі Міністэрства культуры Польшчы) на чале з намеснікам дэпартамента аховы нацыянальнай спадчыны Францішкам Кемкам, з удзелам саветніка Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Цэзарыя Карпіньскага і старшыні Нацыянальнай камісіі ЮНЕСКА Польшчы Томаша Арлоўскага.

Традыцыйна на пасяджэннях камісіі абмяркоўваюцца пытанні супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны. На майскім пасяджэнні былі заслуханы справаздачы і абмеркаваны пытанні па ўсіх напрамках дзейнасці: нерухомыя помнікі, рухомыя помнікі і музейная дзейнасць, бібліятэчная дзейнасць, архіўная справа. Значная частка пытанняў была звязана з гісторыка-культурнай спадчынай Радзівілаў – захаваннем Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу, бібліятэчных і архіўных калекцый.

Пасяджэнне пачалося з абмеркавання стану захавання і рэстаўрацыі гісторыка-культурнага комплексу ў Нясвіжы. У цэнтры ўвагі былі пытанні правядзення рэстаўрацыйных работ у палацы Радзівілаў, інвентарызацыйныя работы ў падзямеллі фарнага касцёла Божага Цела, падрыхтоўка дакументаў па ўключэнні аб'екта ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны і інш.

Быў адзначаны традыцыйна высокі ўзровень супрацоўніцтва па бібліятэчных пытаннях. Камісія была намі праінфармавана аб тым, што ў межах Дзяржаўнай праграмы «Памяць Беларусі» распрацоўваецца праект «Электронная бібліятэка «Памяць Беларусі», адным з напрамкаў якога бачыцца работа над дакументальнай спадчынай Радзівілаў – праграма «Radziwilliana» з удзелам устаноў культуры Беларусі, Расіі, Польшчы. Яна прадугледжвае ўключэнне дакументнага комплексу Радзівілаў (незалежна ад месца захавання) у рэгістр «Памяць свету». Вядзецца даследаванне кнігазбораў Радзівілаў, мэта якога – бібліяграфічная рэканструкцыя, стварэнне бібліяграфічнай і паўнатэкставай базы даных. Распрацаваны і перададзены ў ЮНЕСКА сумесны праект Камітэта па архівах, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі па стварэнні пілотнага CD-Rom, прысвечанага дакументальнай спадчыне Радзівілаў, што захоўваецца ў Беларусі. Навукоўцы Беларусі і Польшчы прынялі ўдзел у Трэціх кнігазнаўчых чытаннях, якія адбыліся летась у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Тэма чытанняў – «Кніга Беларусі: повязь часоў» – была падтрымана камісіяй.

Вялікае задавальненне прысутных выклікала наша паведамленне аб знаходцы знакамітага Слуцкага Евангелля XVI стагоддзя.

На пасяджэнні было падкрэслена плённае супрацоўніцтва абедзвюх краін у архіўнай справе. Архіўныя ўстановы Беларусі прымаюць удзел у рэалізацыі праграмы «Узнаўленне гістарычнай памяці Польшчы». У сакавіку 2003 года адбылася сустрэча кіраўнікоў архіўных служб Беларусі і Польшчы Уладзіміра Адамушкі і Дарыі Налэнч. У выніку забяспечаны доступ даследчыкаў да архіўных крыніц абедзвюх краін. Польскаму боку былі перададзены распрацоўкі па рэалізацыі міжнароднага праекта «Аўтаматызаваная інфармацыйна-пошукавая сістэма «Радзівілы», а таксама даведнікі па фондах дзяржаўных архіваў Беларусі, падрыхтаваныя ў межах сумеснага супрацоўніцтва.

Па рабоце з рухомымі помнікамі і музейнай справе ў асноўным абмяркоўваліся пытанні, звязаныя зноў жа з нясвіжскай калекцыяй Радзівілаў. Польскаму боку было прапанавана пачаць падрыхтоўку да сумеснага выдання «Інвентары нясвіжскага палаца Радзівілаў». Прафесар Надзея Высоцкая прадставіла камісіі сваю кнігу «Жывапіс барока ў Беларусі». Польскаму боку таксама быў перададзены ў дар чарговы зборнік «Вяртанне-7» – «Нясвіжскія зборы Радзівілаў». Абодва выданні выклікалі вялікую цікавасць у польскіх спецыялістаў. У сваю чаргу, беларускаму боку быў перададзены ў дар дыск (CD) з матэрыяламі пра род Тышкевічаў.

На пасяджэнні былі разгледжаны пытанні аб стане і перспектывах рэстаўрацыі некаторых архітэктурных помнікаў на тэрыторыі Беларусі. Прысутных інфармавалі аб правядзенні чарговага IX курса Нясвіжскай акадэміі (паслядыпломнай адукацыі), дзе спецыялісты вывучалі фартыфікацыйныя збудаванні на тэрыторыі Беларусі і Польшчы.

Васіль Чэрнік расказаў аб стане спраў на Аўгустоўскім канале, правядзенні работ па яго рэканструкцыі, падрыхтоўцы дакументаў для ўключэння яго (сумесна з Польшчай) у Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны.

***Ад рэдакцыі. На жаль, па недарэчнасці, што больш нагадвае нядбайнасць адносін Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь да складу дэлегацыі беларускага боку, які павінен быў узначальвацца намеснікам міністра, пасяджэнне двухбаковай беларуска-польскай камісіі па сумеснай культурнай спадчыне вымушана было перарвацца ў сустрэчу спецыялістаў у гэтай галіне, рэкамендацыі якіх павінны быць разгледжаны на наступным пасяджэнні самой (ужо дзеяздольнай) камісіі. Хто ж у гэтым вінаваты?***

***Таццяна РОШЧЫНА,***
***эксперт камісіі,***
***галоўны бібліёграф аддзела рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі***

## Вроцлаў і Гродна — крокі насустрач

З 10 па 13 чэрвеня 2004 года ў горадзе Вроцлаве (Дольнашлёнскае ваяводства Польшчы) прайшоў першы Фестываль беларускай культуры, арганізаваны сумесна гарадскімі ўладамі Вроцлава і Гродна пад ганаровым патранатам міністра культуры Польшчы і пры падтрымцы Пасольства Беларусі ў Польшчы. Гэта першае маштабнае мерапрыемства, якое рэалізуецца ў рамках падпісанага ў лістападзе 2003 года дагавора аб пабрацімскіх сувязях паміж гарадамі Гродна і Вроцлаў.

На фестываль прыбыла прадстаўнічая беларуская дэлегацыя з Гродна на чале з намеснікам старшыні гарвыканкама Валянцінам Ляонавым, вядомыя музычныя калектывы і выканаўцы.

Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця фестывалю прыняў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Польшчы Павел Латушка. Гасцей фестывалю чакала цікавая і пазнавальная праграма, насычаная разнастайнымі мерапрыемствамі, якія годна прадставілі багатую і самабытную культуру Беларусі. Выступленне ансамбля песні і танца «Белыя Росы», мінскага ансамбля «Стары Ольса», камернага хору Гродзенскай капэлы, выстава Гродзенскага аддзялення Саюза мастакоў Беларусі і вернісаж работ беларускіх фатографаў зрабілі свята прыгожым і незабыўным.





*Кніжкі маёй бібліятэкі*

# А «Евангелле»... прысвоіў

Кніжачка маленькая – і па фармаце, і па колькасці старонак. Называецца «Паводле Лукі Сьв. Эвангельле». Я не веру ў Бога... Аднак гэтае «Эвангельле» дарагое мне як памяць пра дарагога чалавека, як сведка выдавецкай справы ў Заходняй Беларусі.

Пётр Сяўрук – родны брат маёй маці. Паэт, грамадскі дзеяч. Яго радзіма – Скідзель. Падчас Першай сусветнай вайны быў у бежанцах, у Ліпецку. У 1921 годзе разам з бацькамі вярнуўся на малазямельную гаспадарку. Шмат пісаў. Дзённікі, апавяданні, аповесці, вершы. Крыху друкаваўся. Кіраваў гуртком «Таварыства беларускай школы» ў Скідзелі. Памёр у 1929 годзе, не дажыўшы да 25 гадоў. Дарэчы, у наступным годзе – 100-гадовы юбілей з дня яго нараджэння.

Спадчыну захавала яго сястра Марыя Якаўлеўна Мазалеўская. Па ініцыятыве Янкі Брыля вершы П. Сеўрука ўсё ж дайшлі да чытача: друкаваліся ў «ЛіМе», «Полымі», у кнізе «Ростані волі». Іван Антонавіч параіў мне заняцца ўпарадкаваннем архіву дзядзькі Пятра, я завёз напісанае ім у Гродзенскі музей. А «Эвангельле» з дазволу цёткі Марусі я... прысвоіў.




– Няхай будзе табе памяць, – сказала яна.

Так трапіла ў маю бібліятэку «святая» кніжачка бязбожніка Пятра Сеўрука. Ён не быў рэлігійным. Нават перад смерцю (хварэў на сухоты), калі яго маці паклікала папа для спавядання, адвярнуўся ад яго да сцяны.

І ўсё ж «Эвангельле» было ў яго бібліятэцы. Як я разумею, дзядзька Пятро паважаў праўдзівае слова. Хоць яно ў святых пісаннях бывае і міфічным, паважаў разумную думку, стараўся данесці яе да сваіх землякоў. Мяркую, што выкарыстоўваў нямала думак і з памянёнай кніжачкі. «Але Гасподзь скзааў яму: цяпер вы, фарысеі, чару і місу звонку ачышчаеце, а нутро ваша напоўнена драпежнасцяй ды злосцяй». Альбо такое: «Гора вам, кніжнікі і фарысеі, крывадушнікі, бо вы быццам магілы ўкрытыя, што людзі ходзяць над імі і не ведаюць таго».

Цікава і тое, што «Эвангельле» выдадзена аж у 1926 годзе выдавецтвам «Компас» у Лодзі на беларускай мове. У кніжцы – беларуская мова, яе правапіс таго часу.

***Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ***

# З куфэрка-скрыні «Берагіні»

У гарадскім пасёлку Акцябрскі, што на Гомельшчыне, завяршыўся III Рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня», прысвечаны 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, які ўмацаваў думку спецыялістаў аб неабходнасці надання яму міжнароднага статуса. Як адзначыла намеснік начальніка ўпраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама Лілія Буланава, «Берагіня» ў нашай краіне не мае сабе падобных. Перш за ўсё сваімі набліжанасцю да невычарпальных народных вытокаў, традыцый фальклорнага мастацтва, далучэннем да іх моладзі. Па звестках, атрыманых ва ўпраўленні культуры Гомельскага аблвыканкама, у вялікім парадзе талентаў, што працягваўся ў Акцябрскім тры дні, прынялі ўдзел каля сямісот артыстаў і выканаўцаў, праграма творчага свята прадугледжвала таксама выступленні народных расказчыкаў, конкурсныя паказы работ разьбяроў, бондараў, вышывальшчыц і аматараў саломапляцення. Завяршыўся ж фестываль вялікім гала-канцэртам «Спадчына маёй Бацькаўшчыны».

***Мікола ЖДАНОВІЧ, «Рэспубліка»***




## 1569

# Люблінская унія

***Пытанне аб дзяржаўнай уніі з Польшчай востра паставіла на парадак дня найперш Полацкая вайна. Наша краіна не магла ўласнымі сіламі адбіцца ад усходняга інтэрвента, вызваліць акупаваную маскоўскім войскам Полаччыну. Ужо ў 1562 годзе, сабраўшыся на палявы сойм пад Віцебскам, шляхта Вялікага княства Літоўскага прыняла зварот да караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста з просьбай аб'яднання дзяржаў і ўтварэння «агульнай абароны».***

Ў 1563 годзе на варшаўскім сойме пры ўдзеле дэлегацыі Вялікага княства пачалі афіцыйна абмяркоўвацца ўмовы аб'яднання дзяржаў. Польскі бок, спасылаючыся на старыя акты часоў Ягайлы, дамагаўся фактычна поўнай інкарпарацыі Княства, а нашы паслы настойвалі на зусім раўнапраўным хаўрусе. Захаванне незалежнасці Княства было прынцыповай пазіцыяй магнатаў – Радзівілаў, Хадкевічаў, Валовічаў ды іншых.

Спрэчкі цягнуліся не адзін год, між тым цяжкасці вайны ўсё вастрэй патрабавалі новых сілаў – дапамогі з боку Польшчы. Шляхта, якая найбольш цярпела ад няроўнага міжбою з Масквой, згаджалася на польскія ўмовы і прасіла гаспадара тэрмінова склікаць агульны сойм для падпісання уніі.

Супольны сойм Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства для разгляду справы уніі сабраўся ў студзені 1569 года ў Любліне. Зноў выявіліся прынцыповыя разыходжанні ў прапанаваных дэлегацыямі ўмовах задзіночання. Сенатары і паслы ад нашай дзяржавы нават нарады свае праводзілі асобна. Палякі звярнуліся да Жыгімонта Аўгуста, каб той прымусіў ліцвінаў далучыцца да кароннага сойму ды прыняць польскія ўмовы. Абураная дэлегацыя Княства пакінула Люблін. Тым часам польскія паны, скарыстоўваючы момант, дамагліся далучэння да Кароны багатых земляў Вялікага княства – Падляшша і Валыні. Потым гэтаксама былі інкарпараваныя Кіеўскае і Брацлаўскае ваяводствы.

У Вільні абураліся, нават разглядалі магчымасць вайны з Польшчай, але яшчэ больш аслабленаму стратаю багатых тэрыторый Княству ўрэшце не заставалася нічога іншага, як зноў прыслаць дэлегацыю на Люблінскі сойм. Нашыя магнаты рабілі ўсё, каб адстаяць максімальную адасобленасць сваёй дзяржавы.

Ўрэшце абодва бакі пагадзіліся на кампрамісных умовах аб'яднання, і 1 ліпеня 1569 года прысягаю прысутных сенатараў і паслоў быў прыняты акт дзяржаўнай уніі – выразна кампрамісны і таму супярэчлівы паводле зместу.

Згодна з Люблінскім актам, Польскае Каралеўства і Вялікае княства Літоўскае аб'ядноўваліся ў «адну агульную Рэч Паспалітую» з адным манархам (кароль польскі быў адначасова і вялікім князем) ды соймам. Прадугледжвалася таксама адзіная манета і адзіная замежная палітыка. На тэрыторыі ўсёй аб'яднанай дзяржавы дэклараваліся аднолькавыя правы шляхты. Аднак, апрача гэтых унітарных прынцыпаў, у акце былі і нормы федэратыўнага аб'яднання: Вялікае княства захоўвала ў рамках Рэчы Паспалітай свой назоў і тытул манарха, уласнае войска, сістэму дзяржаўных пасадаў, скарб і нават права. Праўда, прадугледжвалася перапрацоўка Другога Статута, каб наблізіць яго да польскага збору законаў (аднак новы кодэкс права, Статут 1588 года, наадварот, яшчэ больш адмежаваў Вялікае княства Літоўскае ад Польскага Каралеўства).


*Гетман Раман Сангушка – адзін з праціўнікаў уніі*

Унія Вялікага княства і Кароны паводле Люблінскага акта часова задаволіла абодва бакі. У тых складаных умовах яна дазволіла і ажыццявіць патрэбнае аб'яднанне, і захаваць адасобленасць Княства, а галоўнае, – пераможна скончыць вайну з Маскоўскім царствам. Утвораная Рэч Паспалітая была па сутнасці дзяржавай федэратыўнага тыпу, якая магла эвалюцыянаваць і ў бок унітарызацыі, і ў бок адасаблення злучаных краінаў.

***Генадзь САГАНОВІЧ***


*Герб Рэчы Паспалітай*


*Урачыстае абвяшчэнне аб'яднання Польскага Каралеўства і ВКЛ (з тагачаснай гравюры)*

Памяць

# Замосце ён звязаў з Еўропай

***16 чэрвеня споўнілася 170 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ельскага – беларускага і польскага пісьменніка, асветніка, этнографа, фальклорыста, калекцыянера... Гэта яркая, шматгранная асоба. След, які пакінуў наш зямляк у гісторыі Беларусі, усёй славяншчыны, застанецца на стагоддзі.***

Варта падкрэсліць, што ў апошнія гады шмат зроблена па вяртанні імя Ельскага, яго спадчыны ў кантэкст сучаснай культуры. Перадрукаваны многія яго тэксты, з'явіліся публікацыі пра яго і нават цэлы зборнік матэрыялаў канферэнцыі. Намаганнямі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, а таксама доктара біялагічных навук прафесара Анатоля Федарука пры дапамозе аддзела культуры і аддзела па архітэктуры і горадабудаўніцтву Пухавіцкага райвыканкама прыведзены ў парадак магілкі сям'і Ельскіх – мясціна Кобат, добра вядомая жыхарам Дудзіч і навакольных паселішчаў. Мяркуецца, што літаратурная і гістарычная спадчына А. Ельскага неўзабаве будзе выдадзена асобным томам у «Беларускім кнігазборы».

Матэрыялы пра славутага вучонага знаходзяцца ў фондах і экспазіцыі Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея, у гісторыка-дакументальнай хроніцы Пухавіцкага раёна «Памяць». Спадзяёмся, што юбілей А. Ельскага будзе заўважаны і сёлета. Чаму б не ўшанаваць месца ў Замосці, дзе знаходзілася яго сядзіба-музей, мемарыяльнай дошкай, памятным знакам або каменем?

Замосце займае асобае месца ў гісторыі беларускай культуры другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя. Шкада, што ў нашых айчынных энцыклапедычных выданнях колішняе паселішча не пазначана асобным артыкулам, асобнай, так бы мовіць, персаніфікаванай «кропкай». А тут жа, на ўскраіне сучаснай Пухавіччыны, Замосце з'яўлялася выключнай важнасці гісторыка-краязнаўчай лабараторыяй, «інстытутам Ельскага», дзе бесперапынна ішла работа, праводзіліся «эксперыменты», «вопыты».

Асоба Аляксандра Ельскага, чалавека выключна працавітага, вартая таго, каб у грамадстве, а не толькі сярод навукоўцаў узнікла сапраўдная цікавасць да зробленага ім. І тут, верагодна, нешта важнае можна зрабіць толькі аб'яднаўшыся. Многае для ўшанавання памяці Ельскіх зрабіла асацыяцыя беларусістаў. Вялікую работу па краязнаўстве вядзе Беларускі фонд культуры і яго «Краязнаўчая газета». Чаму б не абвясціць ім супольна конкурс на лепшую работу па гісторыі беларускіх вёсак? Чаму б не перадрукаваць «жыццяпісы» паселішчаў, зробленыя Аляксандрам Ельскім (тым больш, што значную іх частку ўжо пераклала Наталля Мазоўка; часткова гэтыя пераклады друкаваліся ў «Чырвонай змене»)?!

Наколькі мне вядома, памяць А. Ельскага ў гэтыя дні ўшаноўваецца ва Украіне (Данецк) і Польшчы (Кракаў). Няхай і са спазненнем да іх далучыцца Мінск.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

# Гісторыя ні ў чым не вінаватая,

## адказнасць нясуць яе перапісчыкі

(Заканчэнне. Пачатак у № 31)

Гісторык М. Ермаловіч падказаў іншыя думкі наконт Ягайлавага лёсаноснага ўчынку: саюзам з Польшчай ён ратаваў славянскасць у яе блізкім анклаве, а як мудры палітык, палкаводзец, разлічваў з цягам часу падпарадкаваць Польшчу, дзеля чаго часам і ішоў на ўступкі (каталіцызм і іншае), дзеля чаго столькі зведаў, выцерпеў нападаў з усіх бакоў (падырываў польскаму боку – успыхвала незадавальненне ў ВКЛ, падтрымліваў ВКЛ – негадаваў Кракаў). Назіркі адно за адным працягваліся стагоддзі, хоць польскі бок саступіў вяршэнства ў ВКЛ Вітаўту і паабяцаў не ўмешвацца ў яговыя палітыка-дзяржаўныя справы. Можа, тое было і зусім інача, асабліва пасля перамогі войск Ягайлы і Вітаўта над крыжакамі ў 1410 годзе, калі тыя, крыжакі, ужо сур'ёзна не маглі пагражаць ім і Вялікаму Ноўгараду, Пскову, маладой Маскоўскай Русі. Пачаўся перыяд іншай палітыкі, у тым ліку і сярод самых блізкіх суседзяў-саюзнікаў і сапернікаў; яе, тую палітыку, пазней А. Пушкін акрэсліць «домашним спором» славян, але гэтая «хатняя спрэчка» была жорсткая з усіх бакоў: вырашалася, хто будзе верхаводны, а хто залежны. Нашы продкі не жадалі быць нікаму ні «крэсамі», ні «ветвью», хацелі быць самімі сабою і не пазбягалі, як казалася ўжо ў сувязі з Альгердам, хадзіць у баявыя паходы – прасцей, заваёўваць суседнія ўсходнія і паўднёвыя землі. Як і ўсе, дзе з мячом, а дзе з пернікам (скажам, шукалі там саюзнікаў, тыя ж Цвер, Разань ды і Вялікі Ноўгарад, што не хацелі траціць сваю самастойнасць і быць правінцыяй у новай цэнтралізаванай дзяржаве). Але ёсць і яркія прыклады высакароднах адносін паміж ВКЛ і Маскоўскім вялікім княствам: у 1380 годзе Ягайла, тады яшчэ вялікі князь ВКЛ, саюзнік Мамая, не напаў у Кулікоўскай бітве на Дзмітрыя Данскога, які атрымаў перамогу, але знямогся, а ў 1410-м Масковія не пакарысталася момантам, не напала на Ягайлу і Вітаўта, якія таксама былі пераможцамі вельмі дарагой цаною.

Пасля Грунвальдскай бітвы аўтарытэт, вага Вітаўта ў Еўропе вельмі ўзраслі (яго нават запрасілі на каралеўства ў Чэхію), але ён ужо не задавальняўся сваім пажыццёвым княжаннем, ён пачаў распрацоўваць план акаралеўвання ВКЛ, каб тут вярхоўная ўлада перадавалася карэнным і каб рабіць галоўную стаўку не толькі на розныя уніі (саюзы), што не толькі ратуюць, але і падначальваюць. Не выйшла. Ад няспраўджаных надзей Вітаўта-чалавека скасіла смерць, а лёс ВКЛ завагаўся, пачаў выпрабоўвацца ў ціскох з розных бакоў, у войнах у 1500–1503, 1507–1508, 1512–1522, 1534–1537 гадоў і, мабыць, асабліва разбуральнаю знішчальна ў Лівонскай вайне 1558–1583 гадоў. Аслабелае ў няспынных войнах, разрухах, стратах, пагрозах з поўдня, ад Крымскага ханства, ВКЛ мусіла пайсці на цяснейшы саюз з Польшчай і пасля доўгіх перамоў, спрэчак, саступак заключыла з ёю ў 1569 годзе Люблінскую унію, па якой яно (Княства ці Літва) і Польшча (Карона) аб'ядноўваліся ў Рэч Паспалітую – не ў «Вельку Польску», а ў федэратыўную дзяржаву, дзе абодва бакі захоўвалі сваю адміністрацыю, казну, армію, свае законы і судовы апарат і да 1766-га – сваю мытную сістэму. Кожная з іх мела сваю дзяржаўную мову: Польшча – лацінскую (за гэта яе нават некаторыя палякі называлі, мякка кажучы, заложнікамі Рыма), ВКЛ – тагачасную беларускую, з 1696 года пасля яе забароны – польскую,


Ягайла (з размалёўкі ў кракаўскім Вавелі)


Вітаўт на літаграфіі XIX ст.

***Ад няспраўджаных надзей Вітаўта-чалавека скасіла смерць, а лёс ВКЛ завагаўся, пачаў выпрабоўвацца ў ціскох з розных бакоў.***

што, бясспрэчна, было своеасаблівым паражэннем. І Рэч Паспалітая не вытрымала супрацьстаяння з іншымі краінамі, найперш з Расійскай імперыяй, напрыканцы XVIII стагоддзя была падзеленая, і беларускія землі трапілі пад скіпетр Кацярыны II як «исконно русские», дзе ўжо з 1772 года па ўказе царыцы «все дела» трэба было «производить на российском языке», а пазней, у 1840-м, сама назва Беларусь, беларуская мова будуць забароненыя, увойдуць у сілу распрацаваныя Мураўёвым меры па далейшай нясціхнай русіфікацыі Паўночна-Заходняга краю (гэта пры тым, што пасля Люблінскай уніі, пераважваючы націск польскіх кіруючых колаў па ўсіх накірунках (мовы, рэлігійны, тэрытарыяльны), значныя сілы ў ВКЛ самі падаліся да суседніх цароў, шукаючы ў іх паратунку). Зусім невыпадкова пасля развалу Расійскай імперыі ў выніку Першай сусветнай вайны і рэвалюцыі ў Петраградзе «хатняя спрэчка» славян не толькі прадоўжылася, але і ўспыхнула з новай сілай. Найперш з-за накопленых несправядлівасцяў, з-за прагі волі, самастойнасці, развіцця, а не знікнення. Паўстала з небыцця Літва, што некалі была Аўкштайцій і Жмуддзю, у форме БССР і УССР здолелі рэалізавацца беларусы і украінцы з прадстаўнікамі іншых народнасцей, сцвердзілася Рэч Паспалітая са значнай часткай украінскіх, беларускіх і літоўскіх зямель. Але яна не шмат выйграла, калі яе новыя кіраўнікі спачатку абяцалі нацменшасцям нацыянальна-культурна-рэлігійнае развіццё, але неўзабаве разгарнулі шырокую паланізацыю. Калі ў 1939 годзе адбыўся чарговы перапрус, перадзел у Еўропе, то не ўсе ўкраінцы, беларусы і літоўцы засмуціліся, што зноў не стала «Велькай Польскі», у выніку гэтага яны злучыліся са сваімі братамі, маглі разам і ва ўмовах таталітарызму больш зрабіць для сваёй Бацькаўшчыны, для самазахавання. І пасля распаду СССР працэс пайшоў у такім накірунку. І нічога дзіўнага ды страшнага тут для здаровага розуму, высакароднага сэрца няма: як пісаў Ф. Дастаеўскі, нацыянальнае – не нечая прыдумка, а дадзена Богам, перадаецца з роду ў род, з памяццю ў памяць, з душы ў душу, таму для свядомага чалавека гэта было, ёсць і будзе вялікім дарам і багаццем, наказам для нашчадкаў.

Ды – пра... Ягайлу. Чаму ён цяпер, зрабіўшы ці, наадварот, не споўніўшы сваё больш чым 560 гадоў таму, ужо не здраднік для ўсіх ці некаторых сённяшніх літоўцаў?

Названы на пачатку артыкула польскі вучоны П. Ласоўскі зазначае, што ў Літве погляд на Ягайлу пачаў мяняцца пасля 1989 года, калі Прыбалтыка законна, мірна вярнула сабе былую дзяржаўнасць. Спачатку, падкрэсліваецца ў многіх новых публікацыях гісторыкаў, літаратараў (называючы іхнія імёны), пачалі ламаць «стэрэатып» – мяняецца інтанацыя пра сэнс Крэўскай уніі, разбураецца арэол Вітаўта, усталёўваецца думка, што абодва стрыечныя браты, Ягайла і Вітаўт, былі не столькі сапернікі, колькі саюзнікі, што палякі «не адвечныя ворагі Літвы». Далей П. Ласоўскі асабліву ўвагу засяроджвае на «opinie» (поглядзе) М. Юцаса «Унія Літвы і Польшчы ад паловы XVI ст. да пачатку XIX ст.». Згодна з гэтай працай літоўскага даследчыка, як можна зразумець, Ягайлаву справу цяпер трэба пераацаніць, разглядаць як «рацыянальную і перспектыўную», «з пункту гледжання інтарэсаў дзяржавы і народа літоўскага».

І вось уласна тое, што і натхніла напісаць гэтае слова: «Збліз́іў ён (Ягайла. – Г.Д.) Літву праз Польшчу з Захадам, узмацніў абарону Літвы ад экспансіі нямецкай на захадзе і ахаваў ад згубнай перавагі элемента рускага ў жыцці дзяржаўным і культурным».

Апошняя частка сказа выдзелена мною. Безагаворачная ўхвала Ягайлы за «збліжэнне Літвы праз Польшчу з Захадам» – безумоўна ж, «рацыянальная і перспектыўная» даніна сённяшнім еўрапейскім посткамуністычным рэаліям, адкрытая арыентацыя на НАТА і г.д. Няма ніякага намеру з гэтым спрачацца, аўтар мае права на свой асабісты погляд. Але вось на падкрэсленае ў ягонай заключнай думцы давайце звернем большую ўвагу.

«Перавага элемента рускага ў жыцці дзяржаўным і культурным»? Што гэта азначае? Ды тое, што літоўскі гісторык прызнаў тое, чаго яшчэ многія не прызнаюць у нас. Той «рускі» (славянскі) элемент, з чым згодны бадай усе, у ВКЛ у асноўным складаўся на нашых беларускіх землях, якія ўвайшлі ў склад новай дзяржавы прынеслі сваю высокаразвітую навуку, культуру, эканоміку, дзяржаўную мову і мелі перавагу. Значыць, не былі другарадныя, залежныя, як сцвярджалася і яшчэ сцвярджаецца сёння, а фарміравалі ВКЛ на свой лад. А што да той нашай «згубнасці» для тагачасных Аўкштайціі і Жмудзі, то тут не столькі ісціна, колькі эмоцыі і, яшчэ раз паўтаруем, сённяшнія «рацыянальнасць і перспектыўнасць», бо тады, здаецца, на гэтай глебе сутычак паміж беларусамі і літоўцамі не было. Як і пазней. Як не павінна быць і сёння.

***Той «рускі» (славянскі) элемент, з чым згодны бадай усе, у ВКЛ у асноўным складаўся на нашых беларускіх землях.***

Адзначае П. Ласоўскі, што цяпер многія літоўскія даследчыкі станоўча ацэньваюць і Люблінскую унію 1569 года як унікальную, трывалую, моцную «model pacstwa» – мадэль дзяржавы. З гэтым поглядам можна і трэба спрачацца: так мадэль вельмі ж урэзала абсягі, моц, развіццё ВКЛ, выклікала зацяжны канфлікт паміж Польшчай і Украінай і г.д. Яшчэ польскі вучоны па-свойму разглядае клопат «сваіх» і «чужых» у сённяшняй Літве, але гэта ўжо іншая рэч. Яна патрабуе асобнай дасведчанай гаворкі. Я сканцэнтраваў увагу на тым, што ў нас падкрэслівалася яшчэ ў XIX стагоддзі, а цяпер вось паўтарыў-пацвердзіў літоўскі гісторык, за што мы павінны быць яму ўдзячныя. А што да сапраўдных роляў Ягайлы і Вітаўта для нашых і іншых народаў у гісторыі, то яна, роля, іх вялікіх, была вялікая, што і сёння многім не па сіле яе ацаніць...

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***





# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

## Мастакі шыльдаў

У 20–30-я гады XX ст. усе вуліцы і завулкі нашага Лунінца былі завешаны разнастайнымі шыльдамі. З пэўнасцю можна сказаць, што ў той час менавіта тут самыя шырокія народныя масы ўпершыню знаёміліся з выяўленчым мастацтвам. Маючы на ўвазе велізарны працэнт поўнага непісьменства насельніцтва, у гэтым відзе рэкламы першасную ролю павінен быў адыгрываць не тэкст, а малюнак, выява. Шмат не выдумваючы, шыльда павінна была з першага погляду кідка заявіць, «хто ёсць хто». На невялікім кавалку бляхі ў манеры ультра-прымітывізму мастаку давалася магчымасць даць поўную волю творчай фантазіі. Таму ў пэўнай ступені нагадваючы натуру, бохан хлеба, французская булка або яўрэйская хала, звязка абаранкаў на адной шыльдзе перагукаліся з конскаю мордаю, зацягнутай у хамут, на суседняй. Разнастайныя гадзіннікі, бляшаныя выравы, схематычныя рулоны пярэстых тканінаў, паліто і пінжак, а побач – усмешлівы тварык прыгажуні з нажніцамі і шчыпцамі для завіўкі настойліва цягнулі мінака пераступіць парог пэўнай установы. Сталярныя і слясарныя інструменты, галаўныя ўборы, посуд, абутак, адзенне, пісчыя прыналежнасці – усё гэта ў псеўдарэалістычным выкананні радавала мінакоў, надаючы непаўторную адметнасць не толькі гандлёвай рэкламе, але і гарадскім вуліцам. І як жа недаравальна, што ў свой час ніводзін музей не даўмеўся захаваць для будучыні настолькі яркую праяву тагачаснага побыту!

Нямала было і іншых шыльдаў. На металічных стрыжнях, замацаваных перпендыкулярна да сцяны дома, віселі металічныя (з бляхі) боты і чайнікі, капелюшы і хамуты, па-майстэрску намаляваныя булкі і кольцы каўбасы. Такая шыльда была бачная здалёк. Хто вырабляў гэткую рэкламу, сёння ўжо немажліва высветліць.

А вось самым вядомым майстрам па вырабе звычайных шыльдаў быў Луцкі, які жыў на Старасельскім завулку непадалёк ад сінагогі (гэта не азначае, што ў горадзе не было іншых майстроў або што яны рабілі сваю справу блага). Ён з фантазіяй і ўмела маляваў шыльды і адлюстроўваў тое, чым гандлюе пэўная крама. Характэрнаю асаблівасцю было тое, што вытворца заўжды знаходзіў месца і магчымасць пакінуць на шыльдзе сваё прозвішча.

І былі, нарэшце, майстрымастакі, якія малявалі «шыльды» проста на фасадах будынкаў, над вітрынамі, дзе-небудзь высока пад дахам, вялікімі літарамі выпісвалі назву і прозвішча ўладальніка крамы: «Галавач. Каўбасы» або «Гаўштэйн. Аптэкарскія тавары». Такіх насценных пано ў горадзе было няшмат. Яны былі намаляваныя вельмі ўстойлівымі фарбамі і захоўваліся цягам многіх гадоў. Надпісы, зафарбаваныя ў 1939 годзе, з'явіліся на абгарэлых руінах каменных будынкаў ў пасляваенныя гады.

*Леў КОЛАСАЎ*

(Працяг будзе)

(Пачатак у № 16)




*Лёзненскія шыльды на карціне М. Шагала*

# Парадоксы культурна-гістарычнага развіцця Мінска,

## якія выявіліся ў пачатку XX стагоддзя

***Ёсць сотні цікавых фактаў у гісторыі Мінска пачатку XX ст., але не існуе магчымасць, каб іх падрабязна прааналізаваць. Таму адзіна мажлівае – гэта спыніцца на важнейшых рысах гістарычна-культурнага партрэта нашай сталіцы. Асаблівасці Мінска прэзентуюцца мной у трошкі незвычайнай форме – у форме парадоксаў.***

**Дык вось, парадокс першы, палітычны.** У палітычным сэнсе наш горад доўгі час знаходзіўся ў цяні Вільні, але гэта якраз і стварыла спрыяльную глебу для палітычнага ўзвышэння Мінска. Вільня спачатку страціла статус сталіцы ВКЛ, потым прыняла на сябе асноўны ўдар царскіх рэпрэсій, а ў гады Першай сусветнай вайны апынулася пад нямецкай акупацыяй. Калі праз Вільню праходзіў фронт руска-польскай барацьбы, то праз Мінск – запасная лінія рускай абароны. У пачатку XX ст. у палітычным лідэрстве Мінск ужо мала чым саступаў Вільні. Гэтаму спрыяла, зразумела, і надзвычай выгаднае геаграфічнае размяшчэнне горада, а таксама імкненне царскага ўрада ператварыць Мінск у асноўную апорную базу свайго панавання на беларуска-літоўскіх землях. Калі Вільня была цэнтрам краёвасці (ідэі адраджэння ВКЛ), то Мінск – цэнтрам заходнерусізму на Беларусі (ідэалогіі расійскага правінцыялізму). У пачатку XX ст. вялікую папулярнасць сярод мінчан набыла сацыялістычная дактрына. Мінск ператварыўся ў адзін з самых сацыялістычных гарадоў Расійскай імперыі, што адчуваецца дагэтуль. У той жа час ён стаў і калыскай беларускага нацыянальнага руху. Урэшце, гэта спрычынілася да таго, што культура Мінска заўсёды несла на сабе моцны адбітак палітыкі. У сталіцах увогуле культура найбольш палітызаваная.

**Парадокс другі, эканамічны.** У пачатку XIX ст. Мінск з'яўляўся даволі правінцыйным і захалусным горадам, размешчаным у самай глыбіні беларускіх земляў – ўдалечыні ад марскіх партоў, паўнаводных рэк і буйных гарадоў. Але з праведзеннем чыгунак (пачатак 1870-х гг.) згаданы недахоп ператварыўся ў перавагу. Дастаткова аддалены ад вядучых гарадоў Расіі, Мінск апынуўся ў цэнтры прамысловых раёнаў. Гэтая асаблівасць дала штуршок не толькі росту горада, але і фарміраванню ў натуральна ўзнікшай вакол яго эканамічнай нішы падмурка беларускага нацыянальнага рынку. У канцы XIX – пачатку XX стст. па ўзроўню эканамічнага развіцця Мінск з'яўляўся буйнейшым горадам Беларусі. А напярэдадні Першай сусветнай вайны горад стаў вядучым гандлёвапрамысловым і пазыковым цэнтрам беларускага рэгіёна. Канцэнтрацыя ў Мінску вялікіх грашовых сродкаў абумовіла яго галоўную ролю ў кіраванні фактычна ўсёй эканомікай Беларускага краю і спрыяла яго культурнаму ўздыму. Ва ўмовах індустрыялізацыі ў гарадскую культуру побач з аграрнымі капіталамі ўсё болей уліваліся гандлёва-прамысловыя. Гэтая культура набывала індустрыяльна-мадэрнісцкі характар, ставілася на канвеер, ператваралася ў масавую. Так, за другую палову 1910 г. колькасць наведвальнікаў культурных мерапрыемстваў Мінска дасягнула 356,8 тыс. чалавек. З іх 254,4 тыс. прыходзілася на кінатэатры. Другое месца па колькасці наведвальнікаў займаў цырк – 33, 7 тыс. Гарадскі тэатр утрымліваў трэцяе месца – 32, 4 тыс. наведвальнікаў.

**Трэці парадокс, дэмаграфічны.** Ужо ў канцы XIX – пачатку XX ст. Мінск вылучаўся высокімі тэмпамі прыросту гарадскога насельніцтва і імклівым пашырэннем гарадской тэрыторыі. Аднак горад не рос коштам беларускай вёскі, а таму так і не стаў беларускім. Працэс урбанізацыі меў хутчэй палітычныя, чым эканамічныя карані. З 1882 г. яўрэям забаранялася жыць у сельскай мясцовасці, і яны штучна канцэнтраваліся ў гарадах. Мінск прывабліваў перспектывай свайго развіцця, а таму і стаў не беларускім, а адным з самых яўрэйскіх гарадоў Беларусі. Яўрэі складалі ў 1909 г. 43 % мінчан, руския – 35 %, а беларусы – 8 %. А гэта істотна стрымлівала фарміраванне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі і культуры.

**Чацвёрты парадокс, грамадска-муніцыпальны.** Мінск быў надзвычай талерантным горадам. На працягу 1795–1917 гг. у ім не зафіксавана ніводнага выпадку адкрытага міжнацыянальнага канфлікту. У горадзе існавала вялікая колькасць грамадскіх аб'яднанняў. Традыцыі грамадскага жыцця былі вельмі моцнымі. Гэта магло паспрыяць фарміраванню ў Мінску эфектыўных дэмакратычных дзяржаўных органаў самакіравання. Аднак такога не адбылося. У адрозненне ад заходнееўрапейскіх краін, у Мінску, як і ў Беларусі ў цэлым, дэмакратычных муніцыпалітэтаў не склалася. Сіла царскага дыктату аказалася мацней мясцовай традыцыі. Адсутнасць у Мінску дэмакратычнага самакіравання пазбаўляла творцаў культуры адпаведнай апекі. І культурнае жыццё горада трымалася пераважна на грамадскіх ініцыятывах.

**Пяты парадокс, архітэктурны.** Уключэнне Мінска ў склад Расійскай імперыі змяніла архітэктурны пейзаж горада. Адбыўся пэўны разрыў з ліцвінскай традыцыяй. Узорам для праектавання стаў Пецярбург з яго галоўнай вуліцай і прамакутнымі кварталамі. Пануючае становішча ў архітэктуры Мінска XIX ст. займаў класіцызм. Адбывалася насаджэнне псеўдарускага стылю ў культавай архітэктуры. Русіфікацыя, па назіраннях Івана Сацукевіча, выяўлялася і ў назвах вуліц, асабліва пасля паўстання 1863 г. Аднак русіфікацыя толькі ўпрыгожыла знешні выгляд горада. Чаму? Новыя ўлады, пераважна ў мэтах эканоміі, захоўвалі старадаўнюю радыяльна-веерную планіровачную структуру цэнтра горада, старыя будынкі не разбуралі, а прыстасоўвалі да сваіх патрэб. Таму руская архітэктурна-будаўнічыя каноны надавалі вобразу Мінска яшчэ большую разнастайнасць. Царскі горад суіснаваў з гарадам вялікіх князёў літоўскіх і горадам Рурыкавічаў, мураваная архітэктура – з драўлянай. У адрозненне ад іншых гарадскіх паселішчаў Беларусі Мінск фарміраваўся як поліцэнтрычны горад (Нізкі Рынак, Высокі рынак, Новае месца).

**Шосты парадокс, культуралагічны.** Небеларускі горад стаў цэнтрам беларускай культуры. Сталіцу для беларусаў стварылі не беларусы. Як такое стала магчымым? Нягледзячы на ўсе намаганні царызму, Мінск не ператварыўся ў выбітны цэнтр рускага культурнага жыцця. Гэтаму перашкаджалі нізкія запатрабаванні ў рускай культуры з боку мінчан, фінансавыя цяжкасці дзяржавы і цэнтралісцкая палітыка царскага ўрада ў галіне культуры. Большасць рускай гарадской інтэлігенцыі была звязана з мясцовай культурнай традыцыяй. У горадзе пераважала руская культура дэмакратычнага накірунку. Пасля 1905 г. гэтая культура афарбоўвалася ў беларускі нацыянальны каларыт і пачынала працаваць на будучыню Беларусі.

Асяродак польскай культуры не быў у горадзе выцісначы рускай культурай. Асабліва бурліва і актыўна маніфестацыя польскасці праходзіла ў 1917 г., пасля звяржэння царызму, як гэта паказаў польскі даследчык Тадэвуш Зінкевіч. Тады Мінск ператварыўся ў важнейшы цэнтр польскай культуры на беларускіх землях. І ўсё ж ён не стаў такім жа вядомым горадам польскай культуры па-за межамі Польшчы, як Кіеў ці Львоў. Гэтаму перашкаджала моцная зрусіфікаванасць мінчан, канкурэнцыя такога блізкага да Мінска асяродка культуры, як Вільня, ды непрывабліваць для большасці мінчан польскіх ідэалаў.

Нельга сказаць, што Мінск быў значным цэнтрам яўрэйскай культуры ў расійскай дзяржаве. Яўрэйства тут было вельмі зрусіфікаваным. Урэшце, да моманту распада царскай імперыі ён выглядаў больш як полікультурны горад, але найбольшую культурную значнасць меў для беларусаў. Такім чынам, у маштабах Расіі небеларускі Мінск стаў, па сутнасці, побач з Вільняй цэнтрам беларускай культуры. А як горад палікультурны – успрымаўся сваім, родным не толькі беларусамі, але і рускімі, палякамі, яўрэямі. У далейшым гэта істотна паспрыяла таму, што Мінск атрымаў статут беларускай сталіцы.

**Сёмы парадокс, міжнародны.** Мінск у складзе Расійскай імперыі быў намнога больш адкрытым горадам, чым у часы панавання камуністычнай партыі. Ён бесперашкодна ўспрымаў культурныя ўплывы не толькі з Усходу, але і з Захаду. Расійская імперыя была намнога больш адкрытай на Захад, чым СССР. Меліся культурныя сувязі і з Кракавам. У пачатку XIX ст. у Мінску жыў і працаваў кракаўскі мастак Юзаф Пешка, які знайшоў прытулак у губернскага сакратара Е. Кабылінскага. Граф Эмерык Чапскі перапраўляў у 1894–1895 гг. свае зборы каштоўнасцей з маёнтка Станькава (што каля Мінска) у Кракаў. Там існуе музей Чапскіх.

**Восьмы парадокс, цэнтрызму.** Мінск, як і Кракаў, вылучаецца надзвычай выгадным геаграфічным становішчам. Ён – сэрца Беларусі, гэтаксама, як і Кракаў – сэрца Польшчы. Мінск – бясспрэчная сталіца Беларусі і ў той жа час ён не адзіная сталіца жыхароў Беларусі. Беларусь з яе багатай і складанай гісторыяй не можа мець адну сталіцу. Яна – шматсталічная. Акрамя Мінска, у нас дзве сталіцы на захадзе – Кракаў і Варшава, дзве сталіцы на ўсходзе – Пецярбург і Масква. І натуральна – Вільня. Але адна з першых нашых сталіц – гэта Кракаў. Там укняжыўся наш Ягайла і пры яго двары гучала беларуская мова. Таму беларусам трэба часцей ездзіць у Кракаў як у сваю сталіцу, гэтаксама як і ў Варшаву, Санкт-Пецярбург, Маскву, Вільню. Бо беларускі народ спрадвеку – поліцэнтрычны.



*Гістарычная веліч Кракава*

***Гарады Мінск і Кракаў маюць шмат агульнага і шмат рознага. Кракаў ганарыцца сваім мінулым. У Мінска няма такой выдатнай старажытнай спадчыны. Але мы любім наш Мінск і ганарымся яго будучыняй, гэта значыць, спадзяёмся, што лепшыя старонкі яго гісторыі яшчэ наперадзе. І гэта – апошні парадокс, на які я здатны.***

*Захар ШЫБЕКА*

***У былой журналіцкай эліце 1950–1980 гадоў пачэснае месца займаў і Аркадзь Тоўсцік, які нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Чыкілі Глускага раёна. Служыў у арміі, ваяваў, быў на камсамольска-партыйнай рабоце, працаваў на розных пасадах у газетах «Чырвоная змена» і «Звязда». У «Звяздзе» (1973–1986) – гэта была вельмі адказная пасада – галоўнага рэдактара. «Звязда» тады павінна была выяўляць афіцыйную думку кіраўніцтва БССР, ЦК КПБ.***

***Аркадзь Тоўсцік быў адным з тых, хто нас, літаратараў, не крыўдзіў на праве любові да роднай мовы, культуры: мы, грэшныя, гаварылі, гаворым і будзем гаварыць больш заклапочана пра лёс Бацькаўшчыны.***

***Я меў магчымасць і ў «тоўсцікаўскай» газеце друкавацца, нават змяшчаць свае «крамольныя» думкі.***

***Аркадзь Тоўсцік асабіста мне, маладзейшаму калегу па пяру, дорыць свае дзве кніжкі: «Вяртанне да вытокаў сваіх» (Белфакс, 2000), дзе ёсць слова і пра мае звяздоўскія «хуліганствы» і сёлетнюю кнігу «Лістапад», дзе, дазволю сабе сказаць, не проста, як раней, пэўны свой жыццяпіс – прызнанне і споведзь (а да гэтага ўздымецца не кожны!), а грамадзянска-творчая размова пра лёс нашай Бацькаўшчыны, людзей, якія вырашалі і губілі пэўную справу, якія пасля незалежнасці Беларусі то адчувалі, здзяйснялі сваю годнасць, то не падымаліся... Нават да яе, свяёй годнасці. Служачы, прыслужваючы...***

***Хочацца прапанаваць чытачам урывак з кнігі «Вяртанне да вытокаў сваіх», дзе Вы, Аркадзь Апанасавіч, усвядомілі вялікае значэнне краязнаўчай справы, якой Вы прысвяцілі жыццё ў 1987–2000 гадах. А для чытача пазначым, што аўтар перад урыўкам, які прапаноўваецца да друку, апісвае, як раней адбывалася канферэнцыя па стварэнні Савецкага фонда культуры на чале з акадэмікам Дз. Ліхачовым і як «стварэнне адпаведнай рэспубліканскай арганізацыі зацягвалася...»***

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

# У кожнага свой шлях да Беларусі




## Вяртанне да вытокаў сваіх

*...І вось прайшло ўжо сем гадоў, як я працую ў Беларускім фондзе культуры. Першымі, хто пачынаў летапіс гэтай грамадскай арганізацыі, акрамя Чыгрынава, былі яго намеснікі Леанід Валяеў, Алена Багданава. Хутка ў Фондзе ўжо працавалі пісьменнік Валянцін Мыслівец, мастакі Яўген Шунейка і Алесь Тарановіч, а таксама знаўца фальклору Антаніна Хатэнка, журналістка Валянціна Кудраўцава, біблятэкарка Таццяна Максімава, «культурная» функцыянерка Алена Лацук, краязнаўца Таццяна Гаранская.*

ТО БЫЎ ЧАС бурнага нараджэння такіх грамадскіх арганізацый, у якіх бачыўся пачатак агульнага працэсу дэмакратызацыі нашага жыцця. «Культура не можа паўнакроўна развівацца намаганнямі толькі адных спецыялістаў, прафесіяналаў, нават самага высокага класа, – падкрэслівалася ў рашэннях устаноўчага сходу БФК. – Таму стварэнне Фонда культуры – гэта адзін з важнейшых крокаў па далучэнні шырокіх народных мас, канкрэтных спажыўцоў культурных каштоўнасцей да абмеркавання і вырашэння праблем культуры, у канчатковым выніку – да працэсу выпрацоўкі культурнай палітыкі». Вось такая была зроблена высокая заяўка.

І на самым пачатку мы стараліся спраўдзіць тыя спадзяванні. З выпрацоўкі доўгатэрміновай праграмы дзейнасці БФК пад назвай «Спадчына» пачаліся першыя крокі новай арганізацыі, яе сяброў і прыхільнікаў. Грамадскасць горача падтрымала гэтыя намаганні БФК. Дзверы Фонда літаральна не зачыняліся. У спрэчках, усебаковым абмеркаванні на створаных пры Фондзе камісіях была выпрацавана праграма «Спадчына». Пазней да яе абмеркавання далучыліся Міністэрства культуры БССР і іншыя грамадскія арганізацыі.

Гэта быў час сапраўднай эйфарыі прыхільнікаў адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. Напачатку паразуменне знаходзілі людзі розных прафесій, меркаванняў і схільнасцяў. Усіх яднала адно: глыбокая зацікаўленасць лёсам беларускай культуры, унікальнымі магчымасцямі яе адраджэння, жаданне зрабіць нешта карыснае па адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры, якая так старанна тапталася «чужымі» і «сваімі» на працягу стагоддзяў. На сустрэчах у Фондзе, у час работы яго камісій ці на пленумах, сваімі меркаваннямі дзяліліся навукоўцы Міхась Ткачоў, Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс, Генадзь Каханоўскі, мастакі Арлен Кашкурэвіч, Аляксей Марачкін. У прэзідыуме БФК «засядалі» мастак Міхась Савіцкі, кінарэжысёр Віктар Тураў, мовазнаўца Мікалай Бірыла, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп. Як бачна, усё інтэлігенцыя.

Вецер перабудовачных перамен пранік і за тоўстыя сцены нашага парламента, дэпутатам якога быў і я. Нават у рабоце нашай заканадаўчай камісіі пачаліся «збоі». У час абмеркавання праекта закона аб выбарах шэсць членаў камісіі, сярод якіх быў і я, выступілі супраць так званых спіскаў дэпутатаў на галасаванні ад грамадскіх арганізацый, у тым ліку і ад КПБ. Гэта было ўжо смела і неардынарна. І як ні стараўся педантычны старшыня камісіі І.Ф.Якушаў, мы аказаліся няўмольнымі. Хаця доўга валтузіліся, перагаласоўвалі аж на некалькіх пасяджэннях камісіі. Наша меркаванне не прапала дарэмна: значная колькасць членаў камісіі (а ўсяго іх было 23 чалавекі) устрымалася наогул ад галасавання і, такім чынам, пытанне «павісла ў паветры». Ды і на самой сесіі прапанова аб галасаванні па спісах, якую ўнёс першы сакратар ЦК КПБ Я.Я. Сакалоў, не набрала большасці галасоў. Сышліся на тым, што дазволілі-такі вылучацца па спісе кандыдатам у дэпутаты дванаццатага склікання ад ветэранаў і інвалідаў – усяго 29 чалавек.

Асаблівы непакой у значнай часткі дэпутатаў выклікаў гаротны стан беларускай мовы. Дарэчы, пра яе выратаванне загаварылі скрозь і паўсюдна. БФК стварыў Таварыства беларускай мовы, якое ў хуткім часе стала самастойным. Яго ўзначаліў вядомы паэт і навукоўца дэпутат Ніл Гілевіч. Нарэшце і высокія дзяржаўныя, партыйныя структуры рэспублікі зразумелі, што далей нельга стаяць у баку ад гэтай справы. У лістападзе 1989 г. Вярхоўны Савет БССР стварыў камісію па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай і іншых моў. Пад уплывам падзей нават пленум ЦК КПБ у прынятай 27 снежня 1989 г. пастанове прызнаў за беларускай моваю статус дзяржаўнай. Гэта, бадай, самая высакародная акцыя, якую зрабіла кампартыя Беларусі ў сферы моўнай палітыкі за ўвесь пасляваенны перыяд.

Прапановы камісіі аб заканадаўчым урэгуляванні статуса беларускай, рускай і іншых моў разглядзелі і падтрымалі тры пастаянныя камісіі Вярхоўнага Савета БССР – заканадаўчых меркаванняў, па нацыянальных пытаннях, народнай адукацыі і культуры. Адбылося і ўсенароднае абмеркаванне праекта закона аб мовах.

Нарэшце 26 студзеня 1990 г. праект быў вынесены на абмеркаванне апошняй, чатырнаццатай, сесіі Вярхоўнага Савета адзінаццатага склікання. Жаданне выступіць па праблеме мовы мелі многія дэпутаты. Асабліва прадстаўнікі інтэлігенцыі, прычым нават і рускамоўныя. Усе яны выказваліся за наданне беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай мовы ў рэспубліцы. Не знайшлі падтрымкі прапановы прыхільнікаў дзяржаўнага двухмоўя, тым болей, правядзенне рэферэндуму на такую тэму.

І ўсё ж мала хто мог прадказаць, якія вынікі дасць само галасаванне. Безумоўна, довады прыхільнікаў беларускай мовы былі надзвычай пераканаўчымі. Але ж іх апанентаў супакойвала такая немалаважная акалічнасць: у зале абсалютную большасць складалі тыя, хто не валодаў і не карыстаўся беларускай мовай. На іх і была спадзяванка: яны не выступяць у абарону беларускасці. Ніхто не ведаў, як павядуць сябе дэпутаты з радавых рабочых і калгаснікаў, паколькі мала хто з іх карыстаўся «чыстай» беларускай мовай, а больш так званай трасянкай. Што тычылася такіх дэпутатаў, якіх я ведаў, то прама прасіў іх падтрымаць сваю родную і адзіную, але такую зацюканую мову. І вось вынікі галасавання: «за» – 382, «супраць» – 27, устрымалася – 9; усяго галасавала – 368, не галасавала – 17 дэпутатаў.

Такія вынікі ўсхвалявалі тых, хто стаяў за дзяржаўнае двухмоўе. Яны і ўсчалі пасля перапынку змаганне за перагляд некаторых артыкулаў толькі што прынятага Закона аб мовах.

Драматычную сітуацыю стварыў у першую чаргу сам Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Іван Навуменка, які чамусьці паддаўся на ўгаворы вярнуцца зноў да паўторнага разгляду ўжо вырашанага пытання. Зноў на паверхню ўсплыў сумна вядомы прынцып «жаданне грамадзян», разлічаны на тое, што моцна асіміляваная вялізная па колькасці частка беларускага народа не выбера ў якасці мовы выхавання і навучання сваіх дзяцей беларускую мову, а будзе арыентавацца толькі на рускую мову, якой яна валодала.

Пачаліся перагаласоўкі асобных артыкулаў Закона, прыняцце паправак да якіх стварала рэальную пагрозу страціць усё, што забяспечвала надзейную перспектыву для выжывання беларускай мовы. Першым кінуўся ратаваць роднае слова Ніл Гілевіч. Слушнымі былі выступленні Івана Шамякіна, які выступаў двойчы, рэктара тэатральна-мастацкага інстытута В.П. Шаранговіча, рэктара БДУ Л.І. Кісялеўскага, міністраў: культуры Я.К. Вайтовіча, народнай асветы М.І. Дземчука, мастака М.А. Савіцкага, І.Г. Чыгрынава і іншых вядомых дзеячаў культуры. У гэтай напружанай сітуацыі не прамаўчаў і былы сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Аляксандр Кузьмін, які падкрэсліў, што калі прыняць тую ці іншую папраўку «двухмоўцаў», то і «ўвесь гэты Закон губляе сэнс». І спаслаўся на прыклад з уласнай практыкі работы ў свой час у Мінскай вобласці, што такое вызначэнне «па просьбе бацькоў». Яно праз пэўны час прывяло да поўнай ліквідацыі школ з навучаннем на беларускай мове, у першую чаргу ў самім Мінску, сталіцы рэспублікі.

Нарэшце Іван Навуменка пастараўся выправіць уласную памылку, паставіўшы на галасаванне прапанову – пакінуць у сіле першае галасаванне і прыняцце Закона аб мовах. Пасля слоў Старшыні Вярхоўнага Савета «Здравы розум перамог. Рашэнне прынята. Віншую вас, таварышы» ў зале раздаліся апладысменты. «За» прагаласаваў 271 дэпутат пры кворуме 243 галасы. Так ажыццявілася найважнейшая падзея ў жыцці беларускага народа, у яго духоўным адраджэнні. А для Вярхоўнага Савета рэспублікі, несумненна, вялікім гонарам было, ёсць і назаўсёды застанецца прыняты 26 студзеня 1990 г. Закон аб мовах.

РАНЕЙ ЛІЧЫЛАСЯ, што дабрачыннасць не стасуецца з нашым ладам жыцця, у яе ёсць штосьці заганнае, ад мінуўшчыны. Але чаму? Тварыць дабро – гэта ж уласціва людзям. Ахвяраванні вядуць пачатак ад сапраўдных народных традыцый. У Фондзе культуры вырашылі аднавіць гэтую традыцыю. Пачалі збор сродкаў на мемарыял «Буйніцкае поле», на помнікі Кірылу Тураўскаму, Францыску Скарыну, Сімеону Полацкаму, Кастусю Каліноўскаму, Васілю Вашчылу, на помнік ахвярам сталінізму і мінулай вайны.

Але «пайшлі» дары ў выглядзе карцін, старажытных кніг, рэчаў. Вырашылі стварыць пры маім аддзеле савет дарункаў, які ўзначаліў народны мастак СССР Леанід Шчамялёў. Ён першы і перадаў у дар Фонду ў снежні 1987 г. тры свае карціны – «Партызанскі лес», «Дукоршчына» і «Лета. Статак». Адбылося гэта на фондаўскай вечарыне ў Доме пісьменнікаў. Былі кветкі, цёплыя словы, тэлебачанне. Шчамялёўскі жэст заўважылі многія мастакі, якія таксама перадалі свае карціны ў дар Фонду: Арлен Кашкурэвіч, Уладзімір Басалыга, Алена Лось, Мікола Купава, Лазар Ран. Сястра Алены Паслядовіч перадала чатыры творы мастачкі. Праз нейкі час да іх ліку далучыліся Уладзімір Стальмашонак, Аляксандр Родзін, Уладзімір Акулаў, Мікалай Цудзік, Пятро Драчоў, Эдуард Агуновіч, Нінэль Шчасная, Людміла Шчамялёва. Мітрапаліт Філарэт таксама прэзентаваў партрэт XVI стагоддзя.

**(Заканчэнне будзе)**

## Партыі не толькі шахматныя

Сёлета ў Брэсце ў выдавецтве С. Лаўрова выйшла ў свет на беларускай мове (правапіс класічны) колькасцю трыста асобнікаў партыя кнігі С. Давыдзюка і Л. Мартынюка пра шахматы «Нанесці ўдар у дэбюце», адрасаваная пачаткоўцам. Яна змяшчае ўзоры дэбютных пастак, больш за 100 пазіцый для самастойнага рашэння.

Дарэчы, аўтары кнігі з Кобрына, якія маюць цудоўную шахматную школу і падрыхтавалі лідэраў беларускіх шахматаў Аляксея Аляксандрава і Таццяну Мартынюк.

## Ежы Гофман «замахнуўся» на гетмана Хадкевіча

У тым сэнсе, што вядомы польскі рэжысёр гэтым летам пачынае здымаць фільм пра Хоцінскую бітву 1621 года ў Хоцінскай крэпасці ва Украіне. У той бітве аб'яднанае войска Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам гетмана Яна-Караля Хадкевіча і Запарожскае Сечы на чале з гетманам Пятром Сагайдачным разбіла армію султана Асмана II.

Дарэчы, пра гетмана Хадкевіча можна прачытаць у кнізе Міхася Чарняўскага «Правадыр крылатых вершнікаў» у серыі «Нашы славутыя землякі».



*Фота Ігара ГРЭЧКІ*

## Сусветны дзядзінец

**1836.** У Бельгіі пачынае дзейнічаць першая ў Еўропе чыгунка.

**1865.** У амерыканскім штаце Агайё ўчыняецца першае ў гісторыі рабаванне цягніка.

**1912 (22.04).** Выходзіць першы нумар газеты «Правда». Доўгі час гэты дзень будзе святкавацца ў СССР як Дзень друку.

**1921.** У Францыі ўпершыню прадстаўлены духі «Шанель».

**2000.** Парад планет роўна ў поўдзень па маскоўскім часе. У адну лінію выстройваюцца Меркурый, Венера, Марс, Юпітэр, Сатурн, Зямля і Сонца. Такая незвычайная з'ява адбываецца раз у 50–100 гадоў і ў апошні час аналагічны парад назіраўся ў 1962 годзе.

# Прывячаем жыццё чаем

***Вядома, што строгія джэнтэльмены Вялікабрытаніі, гэтак жа, як і загадкавыя жыхары Усходу, ведаюць. які піць чай, як яго піць. І ў жыццёвых карысных задавальненнях разумеюць куды больш постсавецкіх грамадзян, якім доўгія гады быў даступны толькі грузінскі чай.***

***Зараз жа ўсё выглядае інакш. Былі б грошы і жаданне – можна песціць стомлены арганізм якім заўгодна: і белым, і жоўтым, і бірузовым, і чорным чаем. Які і не чорны зусім, а чырвоны. Чым мы горшыя за брытанцаў, у рэшце рэшт?***

### Смаката з аднаго куста

Усе гатункі чаю адрозніваюцца адзін ад другога толькі спосабам апрацоўкі (ферментацыі). І тэарэтычна з аднаго і таго ж куста можна сабраць і зялёны, і белы, і чорны.

Зялёны – гэта чай, які не падлягаў ніякаму ўздзеянню.

Белы – праходзіць апрацоўку вытрымкі на сонцы пасля збору.

Жоўты – гатунак чаю, атрыманы ў выніку тамлення чайных лісцікаў.

Бірузовы – паўферментаваны чай, з лісціка «выціснута» прыкладна палова сокаў.

Чырвоны (той самы, які мы называем «чорным») – ступень уздзеяння вельмі высокая, але не максімальная.

Чорны – чай, які прайшоў усе працэсы апрацоўкі. Для прыгатавання выкарыстоўваюцца толькі лісткі старых чайных дрэў.

### Прыкмячаем, з якім будзем чаем

Самая першая і галоўная прыкмета свежага чаю – гладкія, мяккія навобмацак, яркія лісткі. Чым лісце буйнейшае, тым у чаю больш водару. Калі ж лісце памацаць не даюць, варта звярнуць увагу на ўпакоўку. Яна павінна быць герметычнай і непразрыстай – структура чайнага ліста садзейнічае хуткаму ўбіранню вільгаці і пабочных пахаў. Святло таксама разбуральна ўплывае на якасць напітку. Зразумела, каб пазбегнуць змешвання водараў, лепш кожны гатунак захоўваць у асобнай бляшанцы ці фарфоравым слоіку.

### Дайсці да смаку праз заварку

Мала проста купіць правільны чай – яго патрэбна заварыць. Спецыялісты і проста аматары пераконваюць, што гэты напітак яшчэ больш патрабавальны, чым кава, і якасць яго залежыць ад таго, хто менавіта заварвае. Прасцей кажучы, разам з заваркай у чайнік не кепска было б пакласці няшмат душы. Ну і, акрамя таго, вядома, дадаць кіпеню. Прычым вада павінна быць мяккай, з мінімальнымі прымесямі соляў і мінералаў, натуральна, без пабочных пахаў. А заварачны чайнік хай лепш будзе з гліны, фарфору ці керамікі. «Дозы» вядомы – па адной лыжачцы лісця на кожнага прысутнага і адна «для чайніка». Час настойвання: 4–6 хвілін для зялёнага чаю і 3–5 – для чорнага. Піць варта толькі свежазавараны чай. Калі ён стаіць надта доўга, то губляе вітаміны. А праз суткі і зусім становіцца пажыўным асяроддзем для размнажэння бактэрый і нават канцэрагенам.

### Адсунь чайнік, калі пусты страўнік

Тэмпература напітку не павінна перавышаць 55–60 градусаў. Занадта гарачы чай павялічвае адчувальнасць сценак страўніка, а занадта халодны – садзейнічае назапашванню макроты ў арганізме.

У чаю кафеіну ўтрымліваецца нават больш, чым у каве. Таму рэкамендуемая норма ў дзень – 4–5 кубачкаў. У адваротным выпадку магчыма з'яўленне галаўнога болю і нават бяссонніцы.

Чай пагаршае ўсвойванне арганізмам пратэіну і жалеза са стравы, а таму піць яго варта не раней, чым праз 20 хвілін пасля прыёму стравы. Катэгарычна нельга піць чай на пусты страўнік!

Чай не п'юць пасля ўжывання алкаголю, бо ён павялічвае нагрузку на ныркі і сэрца.

### Чай піць – бо ў тым карысць

Чай карысны для сэрца. Антыаксіданты, якія ўтрымліваюцца ў напітку, зніжаюць крывяны ціск. А біяфлаваніды ўмацоўваюць капіляры, захоўваюць эластычнымі сценкі сасудаў і стымулююць міжклетачны абмен рэчываў.

Чай карысны для зубоў. У тых, хто п'е чай рэгулярна і ў дастаковай колькасці, захворванне на карыес ніжэй на 60 працэнтаў – дзякуй фторыстым злучэнням, кальцыям і вітаміну С. Тэін ачышчае поласць рота ад тлушчавых рэчываў, а эфірныя духмяныя злучэнні «ўбіраюць» непрыемны пах.

Чай паляпшае работу страўнікава-кішэчнага тракту і аднаўляе функцыю шчытападобнай залозы. Вітаміны групы В разам з мінеральнымі рэчывамі і арганічнымі кіслотамі паскараюць дзейнасць страўнікавага соку, рэгулююць тлушчавы абмен і садзейнічаюць пераатраўленню стравы.

Чай паляпшае зрок. У тых, хто п'е напітак рэгулярна, захворванне на катаракту сустракаецца ў два разы радзей, дзякуючы вітаміну С і антыаксіданту катэхіну, якога ў адным кубачку чаю ўтрымліваецца ў 7 разоў больш, чым у шклянцы свежавыціснутага апельсінавага соку.

Чай зніжае рызыку анкалагічных захворванняў. Пастаяннае ўжыванне чаю (асабліва зялёнага, белага ці жоўтага) падаўляе рост злаякасных пухлін, у першую чаргу дзякуючы ёду і бялкам. Акрамя таго, чай здольны паглынаць і выводзіць з арганізма радыеактыўныя рэчывы.

Чай садзейнічае пахудзенню. Бірузовы, напрыклад, практычна не ўтрымлівае калорый, затое багаты на тэін, які расшчапляе тлушчы і выводзіць шлакі.

***Падрыхтаваў Іван ГРЭБЕНЬ***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**БАБОЎНЯ** – вёска ў Капыльскім раёне. За 15 км на паўночны захад ад Капыля, 25 км ад чыгуначнай станцыі Цімкавічы. На перакрыжаванні аўтамабільных дарог Капыль–Узда і Асіповічы–Баранавічы. Былое мястэчка, захавалася традыцыйная планіроўка. Выдзяляецца галоўная вуліца, што перасякае вёску з поўдня на поўнач, забудавана шматкватэрнымі дамамі. На ёй пры ўездзе з шашы Асіповічы–Баранавічы непадалёку ёсць сажалка, сфарміраваны грамадскі цэнтр. Сетка вуліц рэгулярная. Пераважаюць індывідуальныя забудовы сядзібнага тыпу.

У паўднёвай частцы – Бабаўнянскі парк, пра які наша газета пісала ў мінулым нумары, у паўночна-ўсходняй – вытворчая зона. Помнік на брацкай магіле воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. З 1981 года па генплане былі прадугледжаны новыя забудовы, у тым ліку гандлёвага цэнтра, новых шматкватэрных дамоў.

**БАБРОЎСКІ** Міхаіл Кірылавіч (08 (19).11.1784 ці 1785, вёска Вулька Бельскага ваяводства, Польшча – 21.09 (03.10). 1848) – беларускі славіст, арыенталіст, філосаф. Доктар тэалогіі (1823). Член Археалагічнай акадэміі ў Рыме, парыжскага і лонданскага азіяцкіх навуковых таварыстваў, камітэта па выпрацоўцы харвацкага правапісу ў Далмацыі. Скончыў Віленскі універсітэт (1812). У 1817–1822 гадах вывучаў славянскія мовы і літаратуру ў Заходняй Еўропе, вышукваў рукапісы ў бібліятэках і музеях Еўропы, чытаў лекцыі па арабістыцы. Прафесар Віленскага універсітэта (1822–1824, 1826–1833), кіраўнік беларускага філалагічнага гуртка. Выступаў за адраджэнне беларускай культуры, за выкарыстанне беларускай мовы ў сферы афіцыйнага ўжытку. У 1824 годзе за прапаганду прагрэсіўных ідэй звольнены з універсітэта і сасланы ў Жыровічы Слонімскага раёна пад нагляд паліцыі. Дзякуючы заступніцтву мецэната М.П. Румянцава ў 1826 годзе Бабароўскаму дазволілі чытаць лекцыі ў Віленскім універсітэце. Выкладаў старажытнаславянскую мову, збіраў беларускія пісьмовыя крыніцы, выступаў супраць паланізацыі. Спадчына Баброўскага мала даследавана. Ёсць звесткі (згодна Г. Каханоўскага) пра яго працы «Пра характэрныя моўныя звароты беларускага народа», «Гісторыя славянскіх друкарняў у Літве», аднак лёс іх невядомы. З імем Баброўскага звязана адкрыццё Супрасльскага рукапісу (розныя рукапісныя творы: «Зборнік жыцій і пропаведзей XI ст. (285 лістоў), разам з Тураўскім евангеллем і іншымі рукапісамі XI ст. – адзін з самых старажытных помнікаў усходнеславянскай пісьменнасці, «Летапісны зборнік 1-й паловы XVI ст.», дзе выбаркі з усходнеславянскай гісторыі з 862 года, а таксама і па гісторыі ВКЛ, «Зборнік 1519», дзе і спіс другой рэдакцыі Беларуска-літоўскага летапісу 1446 года, пераклад на беларускую мову Вісліцкага статута польскага караля Казіміра III Вялікага і іншае). Аб тым, што талент Баброўскага быў шматгранны, сведчыць і той факт, што ён, апроч названага, цікавіўся яшчэ творчасцю харвацкага паэта XIX ст. І. Гундуліча, друкароў І. Фёдарава, П. Мсціслаўца, дзейнасцю Заблудаўскай друкарні.

**БАБРОЎСКІ** Павел Восіпавіч (21.03 (02.04).1832, б. маёнтак Вака каля Вільні – 03 (16).02.1905) – гісторык і этнограф. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус (1849), Мікалаеўскую акадэмію Генштаба (1857). У 1860–1875 гадах – на штабных пасадах, у 1875–1897 гадах – начальнік Ваенна-юрыдычнай акадэміі; генерал-маёр. У працах па ваеннай гісторыі і гісторыі права далучаўся да суб'ектыўна-ідэалістычнай «акадэмічнай школы». Пісаў артыкулы па беларускай этнаграфіі, аўтар грунтоўнага даследавання «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба. Гродзенская губерня» (часткі 1–2 і дадаткі ў томе II, 1863), дзе ёсць апісанне жылля і гаспадарчых пабудоў, адзення і страў, хатняга і сямейнага побыту, вераванняў і звычаяў беларусаў, а таксама змешчаны каштоўныя звесткі па матэрыяльным становішчы і класавым стане беларускай вёскі пачатку 1860-х гадоў. Звяртаў вялікую ўвагу на беларускую мову, падкрэсліваў яе глыбокую старажытнасць, але вызначаў шляхі яе развіцця згодна з тагачаснай царскай русіфікатарскай палітыкай. Даследаваў таксама гісторыю летапісаў («Лёс Супрасльскага рукапісу…», 1877; «Яшчэ нататка пра Супрасльскі рукапіс», 1888), уніяцкай царквы («Руская грэка-уніяцкая царква ў царванне імператара Аляксандра I», 1890). У 1889 годзе напісаў сваё слова, прысвечанае памяці М. К. Баброўскага.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 25. 08. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1322.
Тыраж 1100.